Год II. — № 19. Пятніца, 14-га траўня (мая) 1921 г. Цана нумару 6 марак.

# НАША ДУМКА

ПАЛІТЫЧНАЯ, ЭКАНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

У газэце супрацоўнічаюць: НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА, Г. Б., ГЕННАДЗІЙ БОГДАНОВІЧ, ВІЛЯНЧУК, МАКСІМ ГАРЭЦКІ, А. ДМАХОУСКІ, АЛЕСЬ КАБЫЧКІН, КРАУЦОУ МАКАР, ДЗЕД КУЗЬМА, М. К-Ч., А. МСЬЦІСЛАУСКІ, ІВАН МЯЛЕШКА, АНТОН НАВІНА, АДАМ САЛАДУХ, КАЗІМІР СВАЯК, СТАНІСЛАУ ЧЫЖЭУСКІ і інш.

Адрэс рэдакцыі і канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.
Цэны абвестак: за адзін радок самага дробнага друку на апошняй страніцы 10 польскіх марак.
Падпіска: на 3 месяцы 100 польскіх марак або 5 хунтаў мукі.

## На нас не зважаюць...

Апошнім часам уся увага палітыкаў зьвернута на літоўска-польскую спрэчку за Вільню і Віленшчыну. Цяпер усьцяж жывей гавораць аб двух кантонах у нашым краі (гэта, казаўбы, аб двух самаўпраўленьнях) — літоўскім і польскім са сталіцай Вільняй. А так загаварылі дзеля таго, што бальшавікі прыраклі у гэтую спрэчку не мяшацца, а мы, беларусы, слабыя, каб маглі скуткоўна сябе бараніць. Вось дзеля гэтага ўважаюць, што нас можна мінаць і нас можна жаніць бяз нас. Так глядзець на гэту справу, так спыняць спрэчку, мо' і хітра, але неразумна... Трэба ведаць, што ў Віленшчыне, а нат' і ў Вільні, большасьць з тых, якіх лічаць палякамі, ёсьць запраўды беларусы.

Завуць-жа іх палякамі дзеля таго, што яны належаць да каталіцкай веры. Дык разьвязываць спрэчку літоўска-польскую у Нашым Краі, мінаючы беларусаў і на іх не зварочываючы увагі, зусім несправядліва і неразумна. Народ наш хутка усведамляецца і што раз, то ясьней бачыць, што хоць ён і каталіцкай веры, але народнасьці беларускай. А сьведамы гэтага народ не дазволіць ня быць роўнапраўным гаспадаром у сваім краі з такімі-ж гаспадарамі літоўцамі і палякамі.

Але ня толькі нам, беларусам, так цяжка тут у Віленшчыне, ня толькі нас крыўдзяць тут, дзе нас уважаюць за нішто, тут, дзе хацелася-б нас зусім ня бачыць, каб нашым коштам успакоіўся літоўска-польскі спор, але тое-ж самае мы бачым і на землях выключна беларускіх. Маем на воку гэны, так званы, „польскі калідор“, які бальшавікі падаравалі паляком у Рызе. Да гетага „калідору“ належаць чыста беларускія землі; навет Дзісьненскі, Вялейскі, Валожынскі, Навагрудзкі, Слонімскі, Ваўкавыскі.

І вось-жа у гетых чыста беларускіх землях палякі паступаюць так, як у чыста польскіх. Адміністрацыя, мова, парадкі, школы—усё польскае. Да характару забраных земляў польскі ўрад не тасуецца ані трохі. Тут таксама вядзецца палітыка, як быццам беларусаў няма саўсім. У гэтых беларускіх землях Польскі ўрад паступае, казаў бы, пад дыктоўку „Стражы Крэсовай“, якая у сваей „Gazecie Wileńskiej“, умеець і так пісаць, што сяло Барадзенічы, Пагост і Шаркаўшчына у Дзісненскім пав. — гэта чыста польскія меснасьці. А трэба ведаць, што ў гэных мясцох, апрача аднаго-другога пана, вы і са сьвечкай ня знойдзеце паляка і не пачуеце польскай мовы.

Аб гэтым ведаем ня толькі мы. Ведаюць аб гэтым дужа добра і бальшавікі, якія апошнім часам шмат выказываюць зацікаўленнасьці беларускай справай і запраўды шмат ей памагаюць. Яны памылкаў польскага ўраду не лапускаюць, але з іх спрытна карыстаюць.

Народ наш, тутэйшы беларускі, народ працоўны, ужо скалыхнуўся, пакаштаваў волі, хоць з яе не скарыстаў; ён, калі не разумее ясна, дык чуе, свае палітычныя і соцыяльныя шляхі; чуючы гэта ўсё, народ наш будзе кідацца у той бок, з якога яму, шчыра, ці няшчыра, пойдуць на сустрэч.

Польскі ўрад павінен гэта разумець і павінен прыступіць да запраўды культурнай адбудовы тэй Беларусі, якую Польшча атрымала ад бальшавікоў, калі хоча, каб беларускі народ астаўся пад польскай апекай, і з гора ня шукаў бы сабе іншых апякуноў.

## Любіце польскі народ.

Вярнуўшыся, пасьля даўгой адлучкі, у Вільню і зайшоўшы ў сваю рэдакцыю, даведаўся я, між іншым, цікаўныя рэчы. Шмат хто, асабліва і чуць ня выключна з людзей „няпростых“, піша ў «Нашу Думку» такія корэспондэнцыі, у якіх няма розьніцы ў адносінах *да пальскіх паноў*, польскіх эндэкаў, ім падобных людзей і *да польскага народу.* Гэта ёсьць вельмі брыдкая рэч. Аб ёй варта сказаць пару слоў, каб засьцярэгчы і рэдакцыю і людзей «простых». Вось-жа скажу зусім сумленна, што варожасьці да польскага народу ўсяго разам я нідзе на правінцыі з боку нашых сялян, нашага народу — ня відзіў. Народ аказаваецца разумнейшы за тых «няпростых» дапісчыкаў. Народ страшэнна цярпіць ад ваеннае абстаноўкі, народ цяпер відзіць, апроч таго, як жаўнеры-чужакі бяруцца за належную да беларусаў зямельку, але ўсё-ж няма ў ім нацыянальнае нянавіднасьці да польскага народу. Народ наш разумее, што ня польскі народ вінават у тым, што нам робіцца вялікая крыўда. А калі і вінават, то столькі-ж, сколькі і мы самі вінаваты, сколькі вінават бывае наогул усякі народ, у старонцы якога да таго ці іншага часу пануюць непарадкі. Тымчасам, на вялікі ўстыд, людзі пісьменныя, няпростыя, казаў той, маючы злосьць на якога-небудзь аднаго-другога ягомасьця польскай нацыі, пачынаюць пераносіць яе на ўвесь польск народ. Мала таго, пішуць у народную газэту допісы, у якіх выліваець гэтую ганебную злосьць да цэлай нацыі, і мабыць стараюцца прышчапіць яе і свайму народу. Нічога горшага прадставіць няможна! Дзякаваць Богу, што сярод сьвядомых беларусаў я дагэтуль такіх рэчаў ніколі не заўважаў. Трэба вучыцца розуму ў народа. Глядзеце: у таго забралі астатнюю скацінку, у другога забралі збожжа бяз думкі на яго галодных дзетак, у там таго яшчэ зьняважылі дзеўку, а ён, сьцяўшы зубы, кляне гвалтаўніка—аднаго, другога, трэцяга, кляне *парадкі*, пры якіх гэта магчыма, бо чалавек робіць з голаду, або з цемнаты, праз распаліваньне панамі шовінізму, кляне паноў, але не кляне і ня будзе клясьці ані ўсіх-чыста польскіх жаўнераў, ані увесь-чыста польскі народ. Бо і там—такія-ж людзі, як мы, шмат добрых і сумленных, у якіх сэрца баліць за нашу крыўду, але яны рады даць ня могуць, як вось, прыкладам, І беларускі народ у сваёй старонцы ладу зрабіць ня здолеў. Дык любіце польскі народ, няшчасны народ, якому, як і нам, шмат яшчэ прыдзецца пакутаваць за учынкі шовіністаў, эндэкаў, крэсаўцаў. Польскаму жаўнеру раскажыце сваё гора, сьпяіце яму сумную беларускую песьню, і ўбачыце на яго вачох сьлёзы.

**Дзед Кузьма.**

## Балючае пытаньне.

Пад гэтым загалоўкам вядомы публіцыста Зьмітро Жылуновіч у савецкай беларускай прэсе ізноў і ўзноў парушае справу аб бежанцах.

Запраўды — гэта балючае пытаньне, балючая справа. Жудасная доля нашых бежанцаў — крывавая, незагоеная рана на целе ўсяе Беларусі і ў сэрцы кожнага з нас.

У гэтай справе трэба разьлічаць два бокі. З аднаго боку — асабістая боль кожнага уцекача, нялюдзкія мукі кожнай паасобнай бежанскай сям'і. З другога боку—страшэнная агульная наша народная бяда з той прычыны, што адсутнасьць бежанцаў-беларусаў хочуць выкарыстаць ворагі Беларусі.

Бязьмернае, вялікае гора кожнага бежанца асабіста, кожнае сям'і паасобку ужо ня раз было паказана ў нашых газэтах бяз розьніцы кірункаў і ў нашай прыгожай літэратуры у творах амаль ня кожнага сучаснага поэта і пісьменьніка. Гэтае гора блізка і зразумела ўсякаму чалавеку і ўсякі чалавек стараецца чым-мага даць яму рады, аблегчыць долю бежанца.

У гэтым-жа кірунку працуюць і дабрачынныя арганізацыі, як таварыствы помачы пацярпеўшым ад вайны і іншыя.

Але тая другая старана мала яшчэ асьвятлялася ў друку і па сваей істоце ня кідаецца так у вочы, як першая. І ня ўсякі чалавек і ня ўсякая арганізацыя мае гэтулькі моцы, каб памагчы ёй, папрравіць яе! Урэшце яна можа стацца непапраўнаю. Усякі бачыць асабістае гора бежанца, але ня ўсякі бачыць тую гістарычную страту для ўсей беларускай нацыі, якую рабіла ёй дагэтуль і робіць цяпер бежанства. Магчыма, што ня так войстра адчуваецца тая другая старана балючага пытаньня там, дзе жыве З. Жылуновіч, як тут, дзе жывём мы. Магчыма, што З. Жылуновіч, захапіўшыся камуністычнымі ідэямі, не разумее навет балючасьці бежанскага пытаньня з той другой стараны. Бо ён, зачапіўшы справу бежанцаў, ня лічыць за найпільнейшую патрэбу найскарэйшы паварот іх сюды, у Віленшчыну і Горадзеншчыну. Адхілімся троху ў бок і паслухаем, што ён піша аб балючым пытаньні“.

— „У вайну Беларусь падпала вялікаму й страшэннаму разору,—піша З. Жылуновіч. Адступаючыя ад немцаў у 1915 годзе часткаю ад сполаху ворагаў, а часткаю па прымусу царскага правіцельства, разам з расейскім войскам узьняліся соткі тысячаў беларускіх сялян з сваіх наседжаных месцаў. Старыя й малыя з хатнімі пажыткамі й гавядаю пацагнуліся яны на ўсход у чужыя, далёкія краі.

Па дарозе дзесяткі тысяч іх мёрла ад халеры, тыфусу й іншых хвароб; губілася дабро, падала гавяда. Бы вярстовыя слупы, але ў тысячу разоў часьцей, вырасталі між шляхаў канцы магілак і крыжы ці слупкі для іх.

Адбывалася нячуваная мука вялікіх грамадаў уцекачоў, ці сапраўдней выгнанцаў. Шэрая, запужаная працоўная Беларусь цягнулася ў сьвет шукаць сабе прытулку. Даўжэнная дарога брала нязьлічаныя ахвяры. Яшчэ-ж болей іх узялі далёкая Сібір, гарачы Туркестан, няпрыветныя гарады вялікай Расеі, Украіны й Каўказу. Змучаныя, напужаныя ў чужых краёх гіблі уцекачы з Беларусі, а якія выжывалі, ніклі ў суме, ня можачы й ня маючы, як прыстасавацца к жыцьцю на чужыне. Колькі гора й мук яны перанясьлі! Колькі нацярпеліся!“.

Далей аўтор-камуніст кажа, што „радзіма ня звала іх да сябе“ і вінаваціць у тым, што бежанцы не маглі вярнуцца дамоў, «белагвардзейцаў, памешчыкаў, генералаў і паноў, скінутых рэвалюцыяй». Гэта яны нарабілі фронтаў і перашкаджалі вярнуцца бежанцам дамоў! Так, але каб ня быць аднабокім, трэба сказаць, што ў паказанай бядзе вінаваты ня толькі белыя генаралы і паны, але на шкоду таксама і «чырвоныя», іхнае бязладзьдзе і безгалоўе, іхныя парадкі, часта-густа твораныя быўшымі вернымі царскімі служкамі, а на Беларусі і для Беларусі, апроч таго, рознымі прыблудамі і русыфікатарамі, камуністамі на словах і запраўднымі чарнасотнікамі ў сваёй закарузлай душы. Можна-б было тут напомніць З. Жылуновічу, што чырвоныя «паны» Беларусі яшчэ дагэтуль не вярнулі з чужыны на Бацькаўшчыну поэта Якуба Коласа, але мабыць з гэтых наўпамінкаў яшчэ доўга нічога ня выйдзе, дык паслухайма, што піша ён далей. Ен кажа: «Вось цяпер, калі падпісан з Польшчаю мір, здавалася-б пытаньне аб узвароце бежанцаў магло-б стаць на болей цьвёрды грунт, Аднак для прычакаўшыхся гэтага беларускіх бежанцаў стаіць новая перашкода.

Справа ў тым, што большасьць іх з Горадзеншчыны, Віленшчыны й той часткі Меншчыны, якія адышлі да Польшчы. Вяртаньне туды, у лапы паноў, пад іхні прыгон — не дае ніякае выгоды. Ды само вяртаньне, як беларусаў — стаіць у гэткім палажэньні, што цяжка навет у іх і разабрацца. Хто аб іх будзе дбаць ці-ж не палякі? І ці-ж не рабіцца беларусам палякамі, каб за гэта дастаць дапамогу ад паноў вярнуцца ў іх падданства. А тым часам з усіх канцоў Савецкіх рэспублік даносіцца голас просьбы й малітвы ў Бел. Уцык, ў рэдакцыю беларускай газэты й інш. ад цэлых грамадаў і асабістых беларусаў уцекачоў вярьуцца дамоў. З Уралу, з Далёка-Усходняй рэспублікі, з Аранбурскіх стэпаў, з Украіны й Каўказу даносяцца гэтыя просьбы.

Савецкая Беларусь — то магнэс для закінутых у чужыну беларускіх працаўнікоў. І працаваць для яе адраджэньня, служыць яе свабодзе — нямерна прагуць яны там.

Цікавасьць да роднага слова, да роднай газэты й кніжкі, да ўсяго, што робіцца дома, на радзіме абурвае іх.

Дзе-ж канец іх чаканьням? Дзе-ж выйсьце?

Яго трэба знайсьці.

Савецкаму правіцельству Беларусі трэ' было-б аб гэтым падумаць. Нам-жа, здаецца, што яму на спробу можна было-б ужыць гэткія рады. Тых уцекаючоў беларусаў, якія жылі ў цяпер вольнай яе часьці—можна вярнуць бяз усякіх, апроч агульных прычын, труднасьцяў. Тых-жа якія жылі ў цяперашняй Горадзеншчыне й Віленшчыне трэ' было-б варочаць патрошку й расьсяляць іх на камунальныя гаспадаркі. Зямлі ў Савецкай Беларусі для гэтага хапала-б — хай-бы працавалі яны на ёй і чакалі лепшага часу для ўзвароту на свае месцы.

Асобных-жа інтэлігэнтных працаўнікоў, настаўнікаў, пачтальёнаў, фэльчараў, павінна-б бяспрыменна вярнуць на Беларусь, дзе ў іх чуецца вялікая недастача й дзе яны сваёю працаю былі-б на многа карысьней, ніж на чужыне.

Разам з гэтымі спробнымі радамі быў бы паложан пачатак зьнішчэньню таго

## Ангельская прэса аб Беларусі.

У зьвязку з Рыжскай міравой расейска польскай умовай і Брусэльскай Канфэрэнцыяй, ангельская прэса зьмяшчае вялікія і малыя артыкулы аб Беларусі.

З іх найбольш цікавы для нас артыкул зьмесьціла вельмі папулярная тыднёвая ангельская часопісь «Graphic», № 2683, ад 30 красавіка.

У гэтым артыкуле аўтор апавядае гісторыю Беларускага руху і праводзіць думку аб тым, што Беларусь з яе шаснаццаць-міліённым жыхарствам можа адыграць і пэўне-ж адыграе, вялікую ролю ў справе раўнаважаньня на Усходзе Эўропы. Гутарачы аб маскоўска-польскай міравой умове, аўтор лічыць што гэтая ўмова зьяўляецца гвалтам пад Беларускім народам, што яна топчыць самыя элемэнтарныя правы беларускай нацыі, што яна у адным і тым-жа сваім артыкуле робіць прызнаньне незалежнасьці Беларусі і яе падзел паміж Маскоўшчынай і Польшчай.

Характарызуючы беларускі народ, аўтор падчырківае яго цяжкую долю і дзівуецца, якім чынам, пры такіх цяжкіх варунках жыцьця, гэты народ здолеў захаваць сваю сьвядомасьць і волю да незалежнага жыцьця і ня страціў старых прыгожых адзнак славянскага характэру: шчырасьці, сумленнасьці, адвагі і праўдалюбасьці.

Заканчываючы артыкул, аўтор адзначае, што справа незалежнасьці Беларусі цікава ня толькі для народу Беларускага, але і для яго суседзяў, і ня толькі цікава і патрэбна для іх, але павінна быць цікавай і патрэбнай для ўсіх народаў і асобаў, якія паставілі сваім дэвізам права і справядловасьць.

Да артыкулу дададзена сем пекна зробленых фатаграфіяў:

1) „Беларуская Прэса ў 1917, 1918 і 1919 гадах“, на якой сфатаграфаваны 28 беларускіх газэт і журналаў, якія друкаваліся ў гэты перыяд часу;

2) „Беларускі Урад у Коўні“—група Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі;

3) «Прэзыдэнт Беларускай Народнай Рэспублікі—Гр. Пётра Крачэўскі».

4) «Прэмьер-Міністар Ураду Беларускай Народнай Республікі—Гр. Вацлаў Ластоўскі»;

5) «Прадстаўнік Беларусі ў Лацьвіі—Палкоўнік Кастусь Езавітаў»;

6) «Народны патрыёта і павадыр паўстанцаў—Гр. маёр Якубецкі» і

7) «Камандзер Асобнага Атраду Беларускай Народнай Рэспублікі ў Эстоніі ген. Балаховіч» (корэспондэнт «Graphic»-а зьмесьціў яго фатаграфію ў Беларускай вайсковай форме, якую ген. Балаховіч і ўвесь Асобны Атрад Б. Н. Р. насілі ў Эстоніі).

Весткі гэтыя аб нас ў ангельскай прэсе—вельмі сымптаматычны і знамянуюць сабою надбліжэньне тэй пары, калі нарэшце, Дзяржавы Антанты ўстануць на абарону нашых інтарэсаў ад гвалту і бескантрольнага гаспадарнічаньня акупантаў.

**Кастусёнак.**

## „Зялёная . Кніга“.

У продажы зьявілася „Зелёная Книга“ — зборнік матар'ялаў і дакумэнтаў па гісторыі сялянскага руху ў Чарнаморскай губэрні, уложаны таварышам старшыні Камітэту Вызваленьня Чарнамор'я Н. Вороновічам, выданьне Чарнаморскай сялянскай дэлегацыі. Кніга ў 168 страніц вялікага формату (15×23) ў прыгожай колернай вокладцы ў тры фарбы. Продажная цана кнігі 15 нямецкіх марак. Увесь чысты збор ад гэтага выданьня йдзець на карысьць удоваў і сіротаў сялян Чарнаморскае губэрні, загінуўшых у змаганьні за вольнасьць. Склад выданьня пры газэце „Воля Россій“, Tchécoslovaquie, Praha — I, Uhelny trh 1.

Каб напісаць належную рэцэнзыю аб гэтай кнізе, трэба перараказаць яе ўсю, асабліва-ж тыя лічныя ў ёй радкі, якія дымяцца яшчэ сьвежаю крывёю вольналюбівага чарнаморскага сялянства, пазабіванага белагвардзейскімі бандамі генарала Денікіна. Страшэнна жудаснае ўражаньне робяць таксама дакумэнты аб панаваньні ў Чарнаморскай губэрні прадстаўнікоў бальшавіцкае улады.

Сялянскі рух Чарнамор'я шмат у чым нагадуе рух беларускага сялянства, дзеля чаго „Зелёная книга“ асабліва блізка зразумела і, навет дорага сэрцу кожнага сьвядомага змаганьніка за вызваленьне сялянскае Беларусі.

**N.**

## Савецкая Беларусь проці Рыжскага міру.

Украінскі Конгрэс Саветаў у Харкаве і Беларускі ў Менску ратыфікавалі мірную умову з Польшчай.

К Беларускай ратыфікацыйнай грамаце прыкладзен протэст беларускага зьезду Саветаў проці падзелу краю, у якім гаворыцца, што *беларускі народ ніколі не перастане бароцца за непадзельную Беларусь.*

У сувязі з гэтым надта характэрным робіцца зьмест стацьці III рыжскае ўмовы. У той час, калі Польшча адмаўляецца на карысьць Украіны і Беларусі ад земляў, ляжачых на ўсход ад новае граніцы, Расея і Украіна, *але не Беларусь*, адмаўляюцца на карысьць Польшчы ад земляў ляжачых на захад.

Як вядома, прадстаўнікі Савецкай Беларусі трактату не падпісавалі; апрача таго, тамака распачалася арганізацыя Чырвонай арміі з базай у Смаленску. (Бел. Прэс.).

## Зачыненыя каапэратывы.

(*Ад нашага карэспандэнта*).

Горадзенскі стараста пан Рагалевіч зачыніў у павеце дзесяць каапэратываў і загадаў у працягу чатырох дзён зьвярнуць пайшчыкам усе паі і распрадаць тавары.

У самай Горадні зачынена старэйшая беларуская каапэратыва „Беларусь“, а таксама арганізаваная летась „Бацькаўшчына“.

Прычына закрыцьця невядома. Людзі думаюць, што прычынай гэтай зьяўляецца рахунковасьць у беларускай мове.

## Штодзенныя весткі.

*Пятніца*, 6 *траўня* 1921 *г.*

— Спаўняючы Камітэт Саюза Саюзаў у Варшаве паслаў да дзяржаў Коаліцыі мэморыял, у якім кажа, што дзеля таго, што для палякоў плебісцыт у В. Сілезіі прайшоў у дрэнных варунках, бо немцам нібыта надта памаглі эмігранты, а таксама нямецкі „тэррор“ — гэты плебісцыт ня можа лічыцца справядлівым. Таму Саюз Саюзаў пытаецца ў Антанты ці згаджаецца яна прылучыць да Польшчы тыя паветы, дзе было за Польшчу падана большасьць галасоў, а ў тых вакругах, дзе перавага невялікая, зрабіць новы плебісцыт.

— Корфанты Польскім урадам

II.

Бачым, што арганізацыя — першы крок у барацьбе нашага сялянства за зямлю. Якая-ж павінна яна быць і на чым абаперціся?

Нас усіх злучае жаданьне зямлі. Але як—на якіх правох тую зямлю дзяліць? Розныя партыі даюць розныя праграмы. Камуністы кажуць, што зямлю трэба адабраць ад паноў, але не дзяліць яе паміж сялянамі, а зьбіраць вясковых работнікаў у двары, рабіць камуну і прымушаць супольне працаваць. Соцыялісты-рэвалюцыянеры хочуць зямлю дзяліць, толькі не на ўласнасьць, а дзеля часовага карыстаньня — з тым, што цераз кожныя колькі або колькінаццаць гадоў павінны быць роблены перадзелы дзеля ўраўнаваньня гаспадарак. Ды ні адны, ні другія ня могуць здаволіць беларускага сялянства: бо беларускі хлебароб хоча мець

**зямлю на ўласнасьць.**

А раз мы хочам, каб закон бараніў сялянскае права ўласнасьці, значыць, мы павінны ў сваей Бацькаўшчыне завясьці такія законы, якія-бы гэнае права прызнавалі. Значыць, мы,

**сяляне, павінны дабівацца ўлады,**

павінны дабівацца мейсца для сябе ў сойме ў самаўпраўленьні, ўва ўсіх дзяржаўных установах. Калі на ўсялякіх выбарах—ці то ў сойм, ці ў павет, ці ў воласьць — сяляне будуць правадзіць *сваіх людзей*, калі гэныя свае людзі з розных паветаў ці валасьцей зыйдуцца разам на грамадзкай рабоце,—яны павінны дзяржацца разам, стаяць цьвёрда, як сьцяна, за справу сялянскую,

**за ўладу і зямлю для народу.**

А каб жа яны, зыйшоўшыся ў сойме або іншай дзяржаўнай ці грамадзкай установе, зразу маглі згаварыцца і распазнаць, хто свой, а хто — вораг, трэба загадзя стварыць арганізацыю, якая-б злучыла ўсіх сялян— праваслаўных і каталікоў, хоць-бы яны нават ужо забыліся родна е мовы. Такой арганізацыяй павінен быць і будзе

**Беларускі Сялянскі Саюз.**

III.

Трэба арганізаваць гэткі саюз усюды—ў кожнай вёсцы, ў кожнай воласьці. Мэта вясковых і валасных арганізацый—так нарыхтаваць справу, каб перш за ўсё мы сталіся

**гаспадарамі у сябе дома,**

— гэта значыць, каб і ў вёсцы, і ў воласьці нашы справы вялі-бы запраўды нашыя людзі,—людзі, каторыя стаялі-бы за грамаду, за агульную карысьць, а ня найміты паноў, найміты чужынцаў, як, прыкладам, эндэцкія агенты ці „стражнікі крэсовыя“. А гэта можна дайсьці толькі праз арганізацыю сьпярша хоцьбы і невялікіх гурткоў з шчырых і зусім пэўных людзей, бо *на ўсялякіх выбарах пабеда дастаецца таму, хто лепей арганізаваны.* Калі па усіх вёсках у воласьці будуць такія гурткі, калі вашыя выбарныя пайдуць на сход у воласьць, змовіўшыся напярод, каго выбіраць, дык ніякая панская агітацыя, ніякае пужаньне з боку адміністрацыі нічога не дапне. — Калі-ж воласьці будуць нашы, дык ясна, што ў нашых руках апыніцца само сабой і павятовае самаўпраўленьне („земства“, ці „соймік“).

Ды гэта ня ўсё. Павятовае самаўпраўленьне, воласьць — гэта ўстановы, якія вядуць адны толькі мяйсцовыя гаспадарскія справы, пілнуючыся законаў, якія установіць

**Краёвы Сойм.**

Значыць, каб мы запраўды мелі магчымасьць кіраваць нашым жыцьцём, каб запраўды здабылі сабе права на зямлю,—трэба, каб нашы дэпутаты, людзі пэўныя, каторыя не прададуць паном мужыцкае справы, мелі ў гэным сойме перавагу.

Мы ведаем, якіх штук на выбарах у Дзяржаўную Думу ўжывалі паны і чыноўнікі за маскоўскага панаваньня, ведаем, што робіцца і цяпер пры выбарах у павятовыя соймікі. Нашы ворагі не шкадуюць ні грошы, ні розных абяцанак, каб прыцягнуць народ на свой бок, а калі гэта не ўдаецца, дык карыстаюцца націскам фізычным з боку адміністрацыйнае ўлады і маральным—з боку духавенства. З гэтым нам трэба змагацца. Калі будзем мець сваю арганізацыю, дык будзем мець і свае газэты, якія выкрыюць кожын фальш, кожнае баламуцтва з боку нашых ворагаў. Арганізацыя-ж паможа нам і выкрываць варожых агентаў—наймітаў у нашых вёсках і апавяшчаць усім іх імёны.

IV.

Нашы ворагі, якія хочуць пажывіцца Беларускай зямлёй, беларускім дабром, намаўляюць нашых сялян, каб яны дамагаліся далучэньня нашае Бацькаўшчыны ці то да Варшавы, ці да Масквы, ці яшчэ некуды. Яны вядуць агітацыю за тое, каб мы выбіралі дэпутатаў у Варшаўскі Сойм, ці на Ўсерасейскі Устаноўчы Сход.

Ведама, ў сойме ў Варшаве, ці ў Маскве, беларусы загінуць у вялізарнай грамадзе дэпутатаў другіх нацыянальнасьцяў. Аб іх-жа чужынцы і не падумаюць, каб ім даць якую палёгку. Вось, значыцца, ўсё нашае сялянства павінна цьвёрда стаяць

**за незалежнасьць Беларусі,**

за тое, каб мы мелі свой асобны сойм, дзе мы былі-б гаспадарамі. Барацьба за незалежнасьць Беларусі павінна быць баявым клічам усяго сьвядомага сялянства нашае Бацькаўшчыны.

Тымчасам мы йшчэ свайго Сойму ня маем. Паводле рыжскага міру наша зямля падзелена паміж Польшчай і Савецкай Расеяй. Нам прыдзецца мо' йшчэ нейкі час жыць пад чужой уладай і слаць дэпутатаў у Варшаву. Але там яны павінны бароцца за Беларусь. Яны павінны змаўляцца з сялянамі другіх нацыянальнасьцяў, павінны падтрымоўваць іх у іх барацьбе з іхным панствам, за тое-ж яны падтрымаюць нас у нашых дамаганьнях. А то дагэтуль было так, што ў Варшаўскім Сойме польскія нацыяналісты і польскае панства праводзіла законы аб вайсковай колонізацыі Беларусі галасамі польскіх-жа сялян!

Ведама, і польскае сялянства будзе з намі лічыцца і ня пойдзе супраць нас толькі тады, калі мы будзем мець сілу, калі мы будзем добра арганізаваны і пашлем у сойм вялікую грамаду верных нашай справе людзей.

Апрача Варшавы і Масквы ёсьць яшчэ Літва, да якой можа аказацца прылучанай частка Беларусі. Тады з гэтае часткі мы будзем слаць дэпутатаў у Літоўскі Сойм. Дык-жа і тут нам трэба будзе рабіць сваю *беларускую работу*, бароцца за незалежнасьць і аб'яднаньне ўсіх частак Беларусі.

Усё гэта паказвае, што нашае сялянства, ці то пад Масквой, ці пад Польшчай, ці пад Літвой, павінна

**стварыць адну арганізацыю,**

каторай-бы не разарвалі праведзеныя на нашай зямлі гранічныя межы. Не забывайма, што Беларускі народ—гэта бязмала ўсё народ хлеборобаў, і лік наш не малы:

**дванаццаць мільёнаў душ!**

І калі гэта армія сялянская добра будзе арганізована, калі ўсе мы будзем ведаць, куды і якой дарогай нам трэба йсьці, дык мы дойдзем да свае мэты і здабудзем

**незалежнасьць і аб'яднаньне Бацькаўшчыны,**

здабудзем

**зямлю і ўладу для працоўнага народу!**

*Г. Б.*

## Паштовая скрынка,

**Костусю Маеускаму.** На прысланым Вамі адрасам газэта высылаецца. Пажадана, каб усе вучыцялі прыслалі грошы на перасылку. Ахвяру 150 м. адтрымалі, вельмі дзякуем.

„Маладое Жыцьцё“ пашле Вам рэдакцыя, пакуль што выйшла 2 нумары, кожны каштуе 20 м.

**Быдгошч, Кадэту Ключановічу.** „Наша Думка“ увесь час Вам пасылаецца. Яшчэ раз пасылаем № 16, 17 і 18.

## Інформацыйны аддзел.

**Беларускі Нацыянальны Камітэт,** Вільня, Вострабрамская 9, пакой 5. Старшыня Фабіян Ярэміч. Сэкрэтар Біруковіч. Камітэт адчынены штодня, апроч сьвят, ад 11 да 2 гадзіны. Паседжаньні пленуму у панядзелкі ад 6 гадзіны.

**Юрыдычны Адзел** Б. Н. К. адчынены ад 11 да 2 гадзіны ў дзень. Прыймаецца складаньне просьбау і заяў у беларускай і польскай мове і кіраваньне рознымі юрыдычнымі справамі. Бедным рада дарма. Дзеля працы ў аддзеле за прошаны спрактыкаваныя юрысты.

**Інструктарскі Аддзел** Б. Н. К. пасылаець інструктароў на правінцыю, памагае арганізацыям радай, коштамі, літэратураю. Загадчык А. Карабач.

**Беларуская Школьная Рада,** Вільня Вострабрамская, 9. Старшыня М. Кахановіч, сэкрэтар А. Луцкевіч. Клапоціцца аб беларускіх школах і наагул аб справах беларускае асьветы. Памагае радай, коштамі і кнігамі.

**Беларускае Выдавецкае Т-ва** выдае ўсялякія кніжкі ў беларускай мове. Сябраў прыймае Урад Т-ва. Уступная плата—50 м., сяброўская гадавая складка—100 м. Адрэс Т-ва Вільня, Віленская вул. № 33, кв. 1 (адчынена ад 4 да 5 гадз. у дзень). Старшыня М. Гарэцкі, сэкрэтар А. Луцкевіч.

**Беларуская Кнігарня** Беларускага Выдавецкага Таварыства, Вільня, Завальная, 7. Прадаюцца усялякія кнігі, падручнікі для пачаткавых школ і гімназій, поўныя зборы твораў беларускіх клясыкаў, сцэнічныя творы, песьні з нотамі, газэты і розныя пісьменныя матар'ялы (сшыткі, алаўкі, пёры і шмат інш.). Прыймаюцца заказы ад школ і культурна-асьветных арганізацый па самай сходнай цане. Каталёгі высылаюцца дарма.

**Коопэратыўная Друкарня „Друк“,** Вільня, Вострабрамская, 5 (Пасаж) прыймае усялякія беларускія і іншыя заказы.

**Беларускі Школьны Аддзел** пры дэпартамэнту асьветы. Вільня, Каўкаская вуліца (рог Вялікай Пагулянкі), 2, другі паверх, налева, пакой № 13. Рэферэнт Б. Тарашкевіч.

**Першая Віленская Беларуская Гімназія** (для хлопцаў і дзяўчат), Вільня, Вострабрамская, 9. Дырэктар М. Кахановіч, інспэктар А. Дмахоўскі. Гімназія ў складзе 8 аснаўных (ёсьць паралельныя) і 2 прыгатавальных клясаў, з інтэрнатам пры ёй. Навука ў гімназіі даступна для самых незаможных дзяцей. Лепшыя вучні з пачаткавых беларускіх школ маюць магчымасьць пастуціць у гімназію і вучыцца ў ёй зусім дарма. Скончыўшыя гімназію ў 1920 г. вучацца цяпер ў Віленскім унівэрсітэтце і ў вышэйшых школах заграніцай.

**Беларускія пачаткавыя школы ў Вільні.** 1) Кальварыйская, 73. 2) Лідзкі тракт, могільнік. 3) Радунская 27-а. 4) Зарэчча, Панамарская, 12. 5) Аранбурская вуліца. 6) Антокаль. 7) Пры Беларускай гімназіі. Навука бясплатная. У кожнай школе даецца дзяцём сьнеданьне, а бяднейшым—вопратка.

**Цэнтральная Рада Беларускага Вучыцельскага Саюзу.** Канц. 1-й Віленск. Бел. Гімн., Вільня, Вострабрамская, 9.

**Першая Горадзенская Беларуская Гімназія** (для хлопцаў і дзяўчат). Есьць вакансіі ўва ўсіх клясах. Горадня, вул Ожэшковай, № 28. Дырэктар М. Мараўская, інспэктар А. Тамашчык.

**Беларуская вучыцельская сэмінарыя ў Барунах.** Дырэктар С. Рак-Міхайлоўскі. Адрэс: м. Баруны Віленск. губ.

**Беларуская гімназія ў Гарадку** Вялейскага павета, Віленскае губэрні. Дырэктар Тышкевіч.

**Алёна Сакалова**—беларуская прадстаўніца у Амэрыканскім Камітэце Помачы дзяцём, Вільня, Вострабрамская, 9 пакой № 16, прымае ад 3 да 4 гадзіны.

**Прытулак Камітэта помачы,** Вільня, Вострабрамская, 9, (будынак гімназіі), Загадчыца Л. Васілевіч.

**Беларускі коопэратыў „Райніца“** Вільня, Вялікая Пагулянка, 17.

**Віленскі Саюз Коопэратываў,** Малая Пагулянка, д. № 12.

**Кватэра б. Беларускага Клюбу ў Вільні,** Біскупская 12.

**Новаадчыненая спецыяльная Політкліка венэрычных хвароб:** Людвісарская (Прэображэнская) № 14. Трыпер, сыфіліс (606—914), мочэплацёвыя, скурныя, бязсільле плоці, белі і інш. Прыймовыя гадзіны: для мушчын - 8½—10½ раньн. і 4 — 7 гадз. ўвеч. для кабет — 11—1 г. дн., што дня.

**Доктар А. В. Краскоўскі** (агульная медыцына). Прыймовыя гадзіны: ад 8½ да 10, 2—3, 6—7½. Вільня, Вострабрамская, 20, кв. 6.

**«Krynica»** biełaruskaja tydniowaja hazeta. Redakc. i administracyja: Zawalnaja wul. 7; ad 9—6. „KRYNICA“ kaštuje: na hod. 300 mk., na paŭhoda 150 mk., na 3 miesiacy 75 mk., asobny numar 5 mk.

**„Маладое жыцьце“** — часопісь беларускай вучнёўскай моладзі — Вільня Вострабамская, 9.

**Шляхі да „Нашай Думкі“:** Рыга, Nikolaistr. 20. — **Копэнгага В,** Dannebrog-sgade 39 A. — **Прага,** Wenzigowa 4. — **Бэрлін, W. 30,** Motzstr. 21. — **Чыкаго,** 1252 So Union ave, U. 5. 17. — **Нью-Іорк.** 728 Stanway ave Long Jsłand City — **Канстантынопаль,** Брусса, № 27.—**Рэваль.** Post kast 153 — **Парыж.** 25 Avenue Viktor Emmąnuel III. — **Горадня,** вул. Ожэшковай 28. — **Варшава,** Шпітальная 12, кв. 29, Беларускі Нацыянальны Камітэт.— **Ліда,** Вісмонты, 48. — **Саколка,** Беластоцкая вул., п. Індурскі, р. Парук. — **Лодзь,** Скваровая № 1—**Люцын,** Рэжыцкая вул., 38. — **Дзьвінск,** Варшаўская, 56 — **Баранавічы,** Шашовая, 188. — **Несьвіж,** Гарадзейская, 96.



Запісь ў Інформацыйны Аддзел „Нашае Думкі“ прыймаецца на 3 месяцы па асобнай згодзе.

## Віленская біржа (гельда).

11 траўня (мая) 1921 г.

| | |
|---|---|
| Царскія 500 р. | 1250 мар. |
| „ 100 „ | 400 „ |
| „ дробныя | 130—230 „ |
| Думскія 1000 р. | 650 „ |
| „ 250 „ | 500 „ |
| Кярэнкі | 160 |
| Доляры | 850 „ |
| Фунты | 3000 „ |
| Франкі | 65 „ |
| Нямецкія маркі | 1370 „ |
| Осты | 1350 „ |
| Савецкія у буйных купюрах па 5 і 10 тысяч за кожную сотню | 2,5 „ |
| Расчотныя знакі за 100 р. па | 1,5 „ |

## Грамадзяне!

Мы разьлічалі на грошы з Амэрыкі, але яны яшчэ ня прыйшлі і невядома калі прыдуць. Матар'яльнае становішча „Нашае Думкі“ цяпер надта цяжкое: плата аўторам самая мізэрная, ледзь хапае грошы на друк і на паперу. Мы ўжо ня можам адбіваць болей нумароў, каб пашыраць газэту сярод несьвядомых. Надалей прыдзецца або выпускаць газэту без укладного лісту, або зусім на нейкі час зачыніцца. Калі ня хочаце, каб гэтак здарылася,—памажэце падпіскай ці складаньнем падмог.

**„Наша Думка“.**



Прыступаючы да выданьня поўнага збору твораў перадчасна умершага поэты нашага — **Алеся ГАРУНА (Прушынскага),** Хаўрус дапамоглі беларускім пісьменьнікам яго імяні, істнуючы пры выдавецкім таварыстве „Вызваленьне“, мае гонар зьвярнуцца з прозьбай да ўсяго беларускага грамадзянства і, ў першую чаргу, да асоб, што асабіста знал і поэта, вялі з ім перапіску, ці наагул, маюць якія-небудзь творы яго, ці матэрыялы аб ім (біографічныя, ўспаміны, фотографіі і г. д.) і аб яго блізкіх родных — прысладць гэтыя матэрыялы ў Рэдакцыйную Колегію Хаўруса па адрэсу:

**Berlin, W. 30, Motzstr. 21.**

У выпадку, калі прысланныя матэрыалы трэба будзе вярнуць назад, Колегія просіць рабіць на іх спецыяльную нотатку: „для часовага карыстаньня — вярнуць назад!“.

**За Праўленьне Хаўруса дапамогі беларускім пісьменьнікам, часовы сябра яго:**

**А. БОРОЎСКІ.**



Рэдактар і выдавец А. Кабычкін.

Друкарня Б. Клецкіна, Мала-Стэфанаўская 23.